Прачытай сам і перадай другому.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадо.*
**Якуб КОЛАС**

**№ 82 (4540)**

16 кастрычніка 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



# Народная Воля

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЕЗ РЭТУШЫ

Валерый КАРБАЛЕВІЧ

## Чаму Беларусі патрэбна перамога мірных пратэстаў?

Візіт у турму А.Лукашэнкі, які меркаваўся як крок да разрадкі грамадскай напружанасці, наадварот, прывёў да эскалацыі супрацьстаяння. Тут і сілавыя сутыкненні 11 і 12 кастрычніка. І ўльтыматум Святланы Ціханоўскай, у якім яна ўжо не заклікае да перамоў, а патрабуе зыходу Лукашэнкі ў бясспрэчным парадку. І заява намесніка міністра МУС Генадзя Казакевіча, што міліцыя гатова ўжыць агнястрэльную зброю.

Пасля падзей у Кыргызстане, дзе пратэстуючы народ адразу перайшоў да сілавых дзеянняў, за адзін дзень захапіў уладныя ўстановы і дабіўся перамогі, у медыях і сацыяльных сетках хто-ніхто параўноўваў іх з беларускімі рэаліямі. Маўляў, чаму б у нас так не зрабіць? Выказваліся думкі, што і нам трэба дзейнічаць больш рашуча.

Аднак любыя аналогіі з іншымі краінамі трэба праводзіць вельмі асцярожна. Беларусь і Кыргызстан – краіны з рознымі палітычнымі сістэмамі, не кажучы ўжо пра менталітэт народаў. У Кыргызстане існуюць даўнія супярэчнасці паміж насельніцтвам паўночных і паўднёвых рэгіёнаў. Там здаўна падтрымліваецца баланс сіл паміж імі, апазіцыя прадстаўлена ў парламенце і іншых органах улады.

У Беларусі ўсё па-іншаму. Тут існуе моцны, маналітны і кансалідаваны аўтарытарны рэжым. Ні адзін дзяржаўны інстытут фактычна не выбіраецца народам, не падсправаздачны народу, не кантралюецца народам. Усе яны прызначаюцца зверху Лукашэнкам. Існуе жорсткая ўладная вертыкаль. У парламенце, мясцовых органах улады няма апазіцыянераў. Дзяржаўны апарат ніяк не залежыць ад народа, таму і не рэагуе на яго патрабаванні, а захоўвае лаяльнасць А.Лукашэнку.

Акрамя таго, негвалтоўныя метады пратэсту абумоўліваюцца і рацыянальнымі прычынамі.

Найперш, у супрацьстаянні паміж мірнымі дэманстрантамі і ўзброенымі да зубоў прадстаўнікамі сілавых структур перавага заўсёды на баку апошніх.

Па-другое, шматлікія даследаванні пераможных рэвалюцый паказваюць, што негвалтоўныя дзеянні пратэстуючага народа былі больш эфектыўныя. Яны выклікаць спачуванне большасці народа, замежных суб'ектаў, а жорсткасць ахоўнікаў парадку, наадварот, сустракае асуджэнне.

Па-трэцяе, Уладзімір Пуцін публічна паабяцаў, што як толькі ў Беларусі ўспыхнуць беспарадкі, то ён ўвядзе сюды расійскія вайсковыя падраздзяленні.

Нарэшце, па-чацвёртае, самае галоўнае. Гвалтоўная рэвалюцыя нават у выпадку яе перамогі пакідае вялікі негатыўны след, цяжкую псіхалагічную траўму ў грамадскай свядомасці соцыуму. Вось цяпер мяжа паміж дабром і злом у беларускім канфлікце настолькі відавочная, ясная, празрыстая, што любому неангажаванаму чалавеку лёгка рабіць выбар, на чым баку праўда і справядлівасць. Пратэстуючы народ мае вялізную маральную перавагу. А ў выпадку грамадзянскай вайны, калі з'явяцца ахвяры, гэтая мяжа будзе ўжо не такая відавочная.

У беларускай рэвалюцыі ўжо ёсць ахвяры. Па меншай меры чатыры чалавекі загінулі ў выніку сілавога разгону супрацоўнікамі МУС народных пратэстаў. Хочацца, каб гэта былі апошнія ахвяры на алтар свабоды.

Фактычна цяпер на нашых вачах, нашымі рукамі ствараецца новая свабодная беларуская нацыя, грамадзянская супольнасць. Гэта новае беларускае адраджэнне. Менавіта цяпер закладваецца той падмурак, на якім будзе будавацца новая постлукашэнкаўская Беларусь. І вельмі хочацца, каб ён быў не замешаны на крыві.

Рэвалюцыя, якая перамагае з дапамогай гвалтоўных метадаў, стварае адпаведную грамадскую атмасферу. Насілле закладваецца ў палітычны, ментальны код абуджанага соцыуму. І ад яго цяжка будзе пазбавіцца. Палітычныя сілы па звычцы будуць выкарыстоўваць падобныя метады, якія аднойчы далі эфект. Насілле будзе паўтарацца зноў і зноў.

Сёння беларусы выходзяць на вуліцу, бо ў краіне поўнасцю адстунічаюць легальныя механізмы абароны іх інтарэсаў. У дзяржаве няма нармальных пляцовак для грамадскіх дыскусій. Вось цяпер дэпутаты парламента аб'явілі, што збіраюць прапановы для канстытуцыйнай рэформы. Але хто лічыць у Беларусі дзейны Нацыянальны сход органам народнага прадстаўніцтва? Адказ відавочны. На цяперашні момант 9,5-мільённы народ не мае сваіх прадстаўнікоў ні ў адным органе ўлады. Галоўным камунікатарам улад з народам стаў АМАП.

Людзі сыдуць з вуліцы тады, калі запрацуюць нармальныя дэмакратычныя механізмы, з дапамогай якіх насельніцтва можа даводзіць свае патрабаванні да ўлады. То-бок калі народ возьме ўладу ў свае рукі.

Гвалтоўныя метады ўжываюцца тады, калі не працуюць дэмакратычныя механізмы. Менавіта такія механізмы і павінны быць закладзены ў постлукашэнкаўскую дзяржаву. Гэта мусіць стаць вынікам мірнай беларускай рэвалюцыі.

ЗАЯВЛЕНИЕ

## Мы ни в коем случае не должны поддаваться на провокации и отвечать на жестокость жестокостью

*Обращение Координационного совета к властям, силовым структурам, белорусскому народу*

В минувшие воскресенье и понедельник, 11 и 12 октября, против участников мирных шествий власть в очередной раз применила брутальные методы расправы, включая водометы, светошумовые гранаты, распыление слезоточивого газа, жестокие избиения и захваты граждан. Особенно чудовищно выглядит вчерашняя жестокость со стороны силовых структур против вышедших на мирный марш пенсионеров.

В связи с произошедшим мы призываем власти к немедленному прекращению эскалации насилия и началу расследования по фактам жестокости против мирных белорусов. Мы также настаиваем на освобождении всех политзаключенных. Помните: насилие не решает никаких задач и напрямую прокладывает путь к развязыванию гражданской войны в стране. Мы призываем власти садиться за стол переговоров и немедленно приступать к диалогу по поиску путей выхода из острого политического кризиса.

Мы призываем представителей силовых структур: не выполняйте приказы, направленные на избиения и расправы над мирными участниками шествий, не становитесь соучастниками преступлений, которые не имеют срока давности!

Мы призываем белорусское общество, весь белорусский народ проявить терпение и выдержку, довести до конца нашу мирную революцию. Мы ни в коем случае не должны поддаваться на провокации и отвечать на жестокость жестокостью. Только массовые шествия, носящие постоянный и мирный характер, способны обеспечить и закрепить нашу победу, победу восставшего народа над тиранией!

ШОК!

## Аднаго з лепшых беларускіх адвакатаў хочуць пазбавіць ліцэнзіі

Аляксандр Пыльчанка – адзін з самых аўтарытэтных адвакатаў, член Мінскай гарадской калегіі адвакатаў з 1990 года, у 2010–2012 гадах быў яе старшынёй. У апошні час абараняў Віктара Бабарыку, Марыю Калеснікаву і фігурантаў "цукровай справы". Сёння павінна адбыцца калегія Мінюста, якая прыме канчатковае рашэнне.

**Павел МАЗАК.**

ЗА РЕШЕТКОЙ

## Анатолий Лебедько прекратил голодовку

*Экс-глава Объединенной гражданской партии отбывает административный арест в Барановичах. Вчера жена отвезла ему передачу.*

Напомним, что Анатолия Лебедько судили за участие в несанкционированной акции, его задержали 8 октября. После решения суда политик в знак протеста объявил голодовку.

**– Светлана, расскажите, какие последние новости от вашего мужа? Как самочувствие? Он продолжает голодать?**

– С ним в среду встречался адвокат. Слава Богу, из голодовки он вышел. Нам удалось его убедить, что здоровье дороже. Я мужа не видела, но, со слов адвоката, он держится бодро. Похудел, правда. Но я очень довольна, что он вышел из голодовки…

**– Сколько дней он голодал?**

– С минувшего четверга, 4–5 дней, но точно сказать не могу.

Сегодня я ездила передать ему передачу. Людей возле изолятора очень много, причем очень много машин с минскими номерами. Передачи начинают принимать с девяти утра, я приехала около половины десятого и уже была сорок какая-то в очереди. А когда уезжала, там было под девяносто человек! Успеют ли все люди сдать свои передачи родственникам – большой вопрос.

Очень хочу надеяться, что Анатолия отпустят 23 октября. Нашей внучке 25 октября два года, хотелось бы, чтобы в этот день он был с нами.

**– Может, знаете, какие условия, сколько человек вместе с ним в камере?**

– Камера на 10 человек, на вчерашний день там было девять арестантов. По словам адвоката, прохладно, но место спальное у мужа есть, даже белье какое-то выдали! Еда – тюремная, сами понимаете. И то, что я сегодня кое-что передала – видимо, у них сегодня будет праздничный ужин. А еще сказали, что и помоются в душе!

**– Передачу приняли без вопросов?**

– Пересмотрели и развернули абсолютно все! Даже полотенце пришлось разорвать на две части – сказали, что слишком большое, а им там полотенца якобы вообще не нужны.

**– Светлана, вначале Анатолий был в СИЗО на Окрестина…**

– Сразу – да, а потом перевели в Барановичи -- там много минчан, в том числе и те, кого задержали на воскресной акции протеста. Я так понимаю, полный изолятор…

**Марина КОКТЫШ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

## Завалим и следующую пятилетку…

Заговорили о подготовке к очередному Всебелорусскому народному собранию. В связи с этим правительство приоткрыло некоторые показатели прогноза на следующий год и будущую пятилетку. Однако уже можно подводить итоги уходящей пятилетки и сравнить их с тем «светлым будущим», которое нам сулили пять лет назад. Если коротко, практически ни один из контрольных параметров не выполнен. Ни по ВВП, ни по росту производительности труда и зарплат, ни по пенсиям, ни по экспорту, ни по жилью. Исключением может стать только уровень инфляции, и то если Нацбанк ее удержит к концу года в запланированном 5-процентном показателе.

Если в этом году пока ВВП в минусе, то, по мнению разработчиков прогноза, его рост будет неуклонно ускоряться: в 2021 году – 1,8%, 2022-м – 2,9%, 2023-м – 3,8%, 2024-м – 5,4% и в 2025 году – не поверите – 6%. А за пятилетку ВВП прирастет на 21,5%. На этот раз чиновники рассчитывают, что основной прирост экономике даст не экспорт, а внутренний спрос. Где же можно увидеть внутренний потенциал для ускорения экономики? Экономика в рецессии, предприятия обложены долгами, склады забиты готовой продукцией, непрерывно растет доля убыточных фирм и компаний, а вместе с ними и убытки.

Естественно, события после фальшивых президентских выборов в Беларуси в августе 2020 года не улучшили состояние экономики, которая и без этого давно работает по нисходящей. Как указывают аналитики, рост ВВП за истекающую пятилетку не дотянет и 107% при задании 112,1–115%. Среднегодовой прирост производительности труда снизился с 5,82% в 2006–2009 годах до 1,09% в уходящей пятилетке. ВВП за 8 месяцев этого года снизился на 1,3%. При этом отмечается ускоренный рост убытков многих предприятий. На 1 июля 2020 года они составили 5523,8 млн рублей. Отдельные предприятия до 60% и более своей выручки расходуют на погашение кредитов.

Может, не без этого разработчики планов на новую пятилетку проявили определенную скромность в прогнозной динамике объемов ВВП в долларовом эквиваленте: 2021 год – 61,256 млрд, 2022-й – 64,829 млрд, 2023-й – 69,031 млрд, 2024-й – 74,618 млрд и 2025 год – 81,104 млрд «зеленых». Следовательно, достижение стомиллиардного ВВП, как то было предписано сверху, отодвинуто до лучших времен. Отметим, что наивысшее значение ВВП Беларуси достигнуто в 2014 году – 76 млрд долларов.

Если разделить показатели ВВП в рублях на показатели в долларах, можно вывести динамику курса белорусского рубля к доллару по тем же годам пятилетки: 2,57; 2,63; 2,70; 2,76 и 2,83. Здесь виды правительства, на мой взгляд, чересчур оптимистичны. Аналитики гадают, не достигнет ли уже к концу этого года курс доллара символичных 3 рублей. А у разработчиков и через пять лет этого не будет. Как будто наш экспорт взметнется вверх, потому что баррель нефти снова подорожает до 100 и выше долларов, а тонна калийных удобрений на мировом рынке будет стоить свыше 400 долларов. И возрожденный ПВТ вновь нам будет приносить миллиарды долларов чистоганом. Полный апгрейд!

Или правительство забыло, что белорусский внешний госдолг с его гарантиями уже достиг 26,6 млрд долларов, или 65,5 млрд рублей, и подбирается к 50 процентам ВВП – «красной черте» для развивающихся стран? Что золотовалютные резервы Беларуси после того, как Нацбанк истратил в виде валютных интервенций на валютной бирже в августе 1 млрд долларов, чтобы затормозить курсовое падение белорусского рубля, а Минфин выплатил текущие долги, ужались с 8,8 до 7,4 млрд долларов? А к 1 сентября госдолг Беларуси достиг рекордных 57,8 млрд рублей.

Чиновники анонсировали увеличение средней зарплаты по стране до 1794,9 рубля, или в валютном эквиваленте с сегодняшних 490 до 687 долларов, в том числе за счет увеличения производительности труда на 22%. Кстати, рекордное значение средней зарплаты в Беларуси достигнуто в июле 2014 года – 625 долларов. Зарплата учителей превысит, по планам правительства, в 2025 году среднюю зарплату по стране, а зарплата врачей превысит ее в 1,5 раза. Но как обеспечить рост зарплат в бюджетной сфере, если государственный бюджет, как в этом году, на следующий год планируется с дефицитом? Для повышения зарплат бюджетникам должна увеличиваться прибыль в реальном секторе экономики, а она падает. Поэтому предпосылок для увеличения зарплат не просматривается. Если сравнить лучшие достижения страны по ВВП и средней зарплате, отмеченные в уже далеком 2014 году, с прогнозными показателями правительства на следующие пять лет, которые не известно, буду ли выполнены, можно констатировать: хождение по кругу продолжается.

Сегодня для возрождения белорусской экономики необходимо доверие общества к государственным институтам, к их действиям и к их планам. Поэтому начинать нужно не с «планов громадья», а с диалога между властями и обществом. Народ ждет не формальных перемен, а реальных. И к власти должны прийти новые люди, не обремененные старыми догмами, а нацеленные на современные методы управления страной.

ДЗІВОСЫ

## Гродзенцы праз суд дамагаюцца сустрэчы з дэпутатам

*Ленінскі суд Гродна адмовіў у задавальненні скаргі выбаршчыкаў 51-й акругі на рашэнне Гродзенскага гарадскога Савета дэпутатаў, які не задаволіў іх патрабаванне аб правядзенні сходу з дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Ліліяй Кір'як.*

Выбаршчыкі 51-й акругі Гродна напрыканцы жніўня сабралі неабходную колькасць подпісаў за тое, каб гарадскі Савет арганізаваў ім сустрэчу з іх дэпутатам.

Падставай для сустрэчы стала тое, што дэпутат Лілія Кір'як ніякім чынам не адрэагавала на затрыманні і насілле над мірнымі пратэстоўцамі пасля выбараў. І гэта нягледзячы на тое, што яе выбаршчыкі неаднойчы звярталіся да яе з такім патрабаваннем.

Аднак гарадскі Савет палічыў, што такая сустрэча немэтазгодная, паколькі дэпутацкія паўнамоцтвы не даюць права на ўмяшальніцтва ў дзейнасць праваахоўных органаў. Выбаршчыкі падалі скаргу ў суд.

У судовым пасяджэнні прысутнічалі некалькі дзясяткаў заяўнікаў. Многія з іх абураліся рашэннем гарсавета і сведчылі аб бяздзейнасці дэпутата. Аднак суд, выслухаўшы іх аргументы, скаргу ўсё ж не задаволіў.

*"Канешне, рашэнне суда нельга лічыць законным,* – перакананы юрыст **Дзмітрый Салаш**. – *У суда былі ўсе падставы, каб задаволіць нашу скаргу і абавязаць гарсавет правесці такі сход. Мы ж проста ініцыявалі сустрэчу з дэпутатам, каб паслухаць яе пазіцыю, магчыма, яна нам шмат што патлумачыла б. А нам проста тупа забаранілі".*

Асобна юрыст спыніўся на кампетэнцыі гарсавета: у Савета няма паўнамоцтваў забараняць сустрэчу.

*"У іх ёсць права праверыць подпісы, якія мы ім падалі разам з лістом, каб яны сапраўды належалі выбаршчыкам гэтай канкрэтнай акругі. І арганізаваць месца для сустрэчы з дэпутатам. І гэта ўсё, на што меў права гарадскі Савет, а не адмаўляць у сустрэчы"*, – канстатуе Дзмітрый Салаш.

Хаця рашэнне суда, прынятае адносна іх скаргі згодна з заканадаўствам, не падлягае абскарджванню, тым не менш юрыст кажа, што ў выбаршчыкаў ёсць яшчэ адзін варыянт.

*"Яны ўсё роўна будуць патрабаваць сустрэчы з Кір'як на падставе таго, што, згодна з законам "Аб дэпутатах", яна не правяла чарговую справаздачную сустрэчу з выбаршчыкамі"*, – удакладняе юрыст.

Ён кажа, што папярэдняя дамова з дэпутаткай была, але пазней яна перастала выходзіць на сувязь: не адказвае на тэлефонныя званкі і ў сацсетках.

*"Мы маем намер яшчэ раз адправіць ліст непасрэдна ёй, а таксама на адрас Палаты прадстаўнікоў, бо мы, яе выбаршчыкі, хочам з ёй сустрэцца"*, – кажа Салаш. Літаральна днямі выбаршчыкі напісалі зварот да Ліліі Кір'як з патрабаваннем, каб яна выступіла ў парламенце з ініцыятывай унесці змены ў закон "Аб масавых мерапрыемствах".

Акрамя гэтага, выбаршчыкі маюць намер звярнуцца да дэпутаткі, з тым каб яна зноў-такі ў заканадаўчым сходзе агучыла іх прапанову: не рабіць такой паспешнай канстытуцыйнай рэформы, як на гэта настроілася выканаўчая ўлада.

*"Як гэта наогул разумець – за два тыдні яны хочуць сабраць прапановы па зменах у Канстытуцыю?! Такія рэчы з наскоку не робяцца, над гэтым гадамі працуюць найбольш кваліфікаваныя юрысты"*, – дадае Дзмітрый Салаш.

Да ўсяго, дадае наш суразмоўца, у выбаршчыкаў акрамя пытанняў, звязаных з палітычным крызісам у краіне, насіллем сілавікоў у дачыненні да мірных грамадзян, ёсць і пытанні больш вузкай накіраванасці. У прыватнасці, праблемы азелянення горада, добраўпарадкавання і рамонту кантралюемай дэпутатам акругі.

Выбаршчыкі, з яго слоў, маюць намер працаваць, і іх дэпутат папросту не мае права заставацца ўбаку.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
16 КАСТРЫЧНІКА 2020 г.

ЛЁСЫ ЛЮДСКІЯ

Валянцін ПЕРАПЁЛКІН-КІСЯЛЁЎ

# ЗАСТАЦЦА ЧАЛАВЕКАМ

*(Частка другая)*

## «Егерскі марш»

У 1914 годзе ў Еўропе была развязана крывавая бойня, вядомая ў гісторыі як Першая сусветная вайна. Пад акампанемент псеўдапатрыятычных лозунгаў ублыталася ў яе і Расійская імперыя. У рускую армію масава ўліваліся рэкрутаваныя рабочыя і сяляне з усіх канцоў вялізнай краіны. У іх ліку апынуўся і селянін-беларус з хутара Падліп'е вёскі Слабодка Павел Кісялёў. Паддаўшыся імперыялістычнай прапагандзе, ён без ваганняў падпарадкаваўся прызыву і адпраўляўся на фронт са шчырым намерам "адпомсціць неразумным хазарам". На момант прызыву яму не было і дваццаці гадоў, але тым не менш дома заставалася ўжо цяжарная жонка Хрысціна. І састарэлыя бацькі.

Франтавая мясарубка патрабавала мноства медыцынскіх работнікаў: лекараў, фельчараў, сясцёр міласэрнасці, санітараў. Шпіталі былі перапоўнены паранenymі, і медыкаў катастрафічна не хапала. У арміі пачалася кампанія па тэрміновай падрыхтоўцы медыцынскіх кадраў з ліку прызыўнікоў. Але, на жаль, у большасці гэта былі малапісьменныя альбо зусім непісьменныя рабочыя і сяляне. І Павел адразу вылучыўся з іх ліку. Чатыры класы лічыліся ў тыя часы досыць высокім узроўнем адукацыі. Замест фронту яго адразу накіравалі курсантам у Магілёўскую ваенную медыцынскую школу. Вось тут якраз і прыдалося яму юнацкае захапленне біялогіяй і хіміяй. Пасля гадавога навучання ён з адзнакай скончыў гэтую школу, атрымаўшы вайсковае званне унтэр-афіцэра і спецыяльнасць ваеннага фельчара. Павел адразу ж накіраваўся на фронт, які да гэтага часу ўжо праходзіў праз усю Беларусь ад Браслаўскіх азёр да палескіх балот. Ён апынуўся на лініі Баранавічы–Пінск.

Я выдатна памятаю аповеды дзядулі пра тую "забытую вайну", пра тое, што яму асабіста давялося перажыць. Амаль на лініі агню даводзілася ратаваць цяжкапараненых, праводзіць самыя першыя і неадкладныя медыцынскія маніпуляцыі, хутка перавязваць раны. Не раз ён пад шквальным агнём выносіў з поля бою параненых салдат, асабліва калі выбывалі з прычыны раненняў ці смерці санітары і сёстры міласэрнасці. Медыкі таксама жа гінулі ад куль і аскепкаў, як і салдаты і афіцэры. Нярэдка даводзілася брацца на сябе адказнасць і пры правядзенні тэрміновых аперацый і зашыванні рваных ран, калі не хапала хірургаў. Здавалася, гэтай крывавай бойні не будзе канца!

Пад уздзеяннем падзей, якія адбываліся ў Петраградзе, пачынаўся разброд і ў армейскім асяроддзі. Стала псавацца дысцыпліна. Асабліва пасля зрачэння імператара Мікалая II. На настроі салдат моцны ўплыў аказвалі бальшавікі. Яны заклікалі спыняць ваенныя дзеянні супраць немцаў і накіроўваць зброю супраць іншай часткі расійскага грамадства: уладальнікаў фабрык, заводаў, прадпрымальнікаў, інтэлігенцыі, духавенства – гэта значыць перавесці імперыялістычную вайну ў грамадзянскую. Быў размыты галоўны лозунг гэтай вайны: "За Веру, Цара і Айчыну". Цара ўжо не было. Веру бальшавіцкая прапаганда падвяргала рэзкай крытыцы. А Айчына на дадзеным адрэзку часу ўяўлялася чымсьці няпэўным, незразумелым і аморфным. Афіцэры літаральна ўгаворвалі салдат ісці ў атаку. І выпадкі братання з немцамі сапраўды былі на той вайне. І даходзіла да абсурду, калі салдаты выбіралі сабе камандзіраў і галасавалі, ісці ў атаку або не… Аб якой вайсковай дысцыпліне магла ісці гаворка! А пасля кастрычніцкіх падзей у Петраградзе ў расійскім войску пачалася масавая "самадэмабілізацыя", а папросту кажучы – дэзерцтва. Вайна Расіяй была цалкам прайграна, і новыя ўлады заключылі з немцамі ўсім вядомы Брэсцкі мір, паводле якога ўсе беларускія землі, якія знаходзіліся пад акупацыяй, адыходзілі Германіі.

Павел Раманавіч Кісялёў, унтэр-афіцэр медыцынскай службы расійскай арміі, хоць і ненавідзеў ворага, але таксама ўсёй душой імкнуўся дадому да жонкі, дзіцяці, якое ўжо павінна было з'явіцца на свет, і састарэлых бацькоў. Ды толькі не мог ён сабе дазволіць дэзерцтва: перамір'е з немцамі было нядоўгім. У сакавіку 1918 года яны аднавілі ваенныя дзеянні і рушылі далей на ўсход, углыб Беларусі, і ўжо падыходзілі да Жлобіна – родных мясцін Паўла. Тады ён разам са стрыечным братам Якавам рушыў на ўсход, і яны ўліліся ў шэрагі чырвоных партызанскіх атрадаў, арганізаваных бальшавікамі для адпору агрэсару.

Якаў, селянін, ураджэнец Слабодкі, ваяваў у адной роце з Паўлам, і разам яны далучыліся да бальшавікоў. Яны былі амаль аднагодкамі, іх аб'ядноўвала нянавісць да акупантаў. Абодва адважна змагаліся супраць іх у адным партызанскім атрадзе. Абодва былі неаднаразова паранены. Абодва бралі ўдзел у вызваленні мястэчка Жлобін ў лістападзе 1918 года. Але вярнуліся дадому, у родную Слабодку, толькі пасля канчатковага выгнання ворага на пачатку 1919 года.

Як даўно Павел не бачыў свой родны хутар і сваіх і любых! Гаспадарка апынулася ў глыбокім заняпадзе. Бацькі моцна пастарэлі і працавалі, як раней, ужо фізічна не маглі. Скарацілася пасяўная плошча, засталіся толькі адзін конь і адна карова, авечак ужо не было – усё падчысцілі акупанты. Хрысціна нарадзіла дзяўчынку неўзабаве пасля сыходу Паўла на вайну і назвала яе Лідай (гэта мая будучая мама). Па сутнасці, уся гаспадарка трымалася на кволых плячах нявесткі. І адкуль толькі яна чэрпала сілы!

Калі Павел вярнуўся дамоў, радасці не было мяжы! Маладыя муж і жонка не бачыліся больш за чатыры гады. Старыя Раман і Ганна плакалі ад шчасця: сын жывы і здаровы! У сям'ю вярнуўся сапраўдны гаспадар. Хрысціна дачакалася мужа, а ў дачкі з'явіўся тата. Дачакаўся свайго гаспадара і асірацелы было гармонік. З якім трапятаннем і любоўю Павел узяў яго ў рукі пасля доўгай чатырохгадовай разлукі! Ды толькі інструмент не адразу адказаў яму ўзаемнасцю: за гады ліхалецця пальцы адвыклі ад кнопачак, згубілі былую выканальніцкую віртуознасць, як кажуць музыканты, дробную тэхніку. Але ж гэта можна выправіць – аднавіць майстэрства зусёды працай, чым авалодаць ім.

У рэпертуар Паўла ўварвалася новая музыка, яркая і дзівосна прыгожая, якую не чулі раней ні жонка, ні бацькі. Гэта быў прывезены з вайны "Егерскі марш", які ён адразу ж падабраў на слых на сваім гармоніку. У Магілёве, дзе Павел вучыўся ў ваеннай медыцынскай школе, ён упершыню ў сваім жыцці ўжывую ўбачыў і пачуў духавы аркестр, які выконваў гэту боскую музыку. У гэтым горадзе знаходзілася стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага, які пад гукі гэтага бравурнага маршу добраслаўляў вялікія партыі навабранцаў на фронт.

Згаладаўшыся па сялянскай працы, Павел рашуча ўзяўся за аднаўленне сваёй разбуранай і запушчанай гаспадаркі, і разам з Хрысцінай яны шмат у чым дабіліся поспеху. Калі Лідзе было шэсць гадоў, Хрысціна нарадзіла другую дзяўчынку. Назвалі яе Нінай. Настане час, і яна стане вядучай спявачкай Пермскага опернага тэатра, выдатнай і вельмі неардынарнай жанчынай. А яшчэ праз шэсць гадоў у Паўла і Хрысціны нарадзіўся трэцяе і апошняе дзіця – хлопчык Аляксандр. Ён будзе маім самым любімым дзядзькам Шурай, дабрэйшым чалавекам, баяністам-віртуозам, маім музычным кумірам, які трагічна пайшоў з гэтага жыцця ў трыццаць восем гадоў і па якім мая душа плача да гэтага часу.

Як мы бачым, Хрысціна, у адрозненне ад слабадскіх жанчын, нараджала вельмі рэдка, але затое яе дзеці, дзякуй Богу, не паміралі малымі і раслі здаровымі. Трэба не забываць, што Павел з'яўляўся дасведчаным медыкам і ў адрозненне ад сваіх землякоў ведаў, што такое кантрацэпцыя і як ёю карыстацца. Пры гэтым старанна сачыў за здароўем жонкі і дзяцей.

У 1927-м і 1928 гадах адзін за адным памерлі старыя Раман і Ганна. Іх страту асабліва цяжка перажывала Хрысціна: бацькі мужа вельмі любілі яе за працавітасць, дабрыню і вернасць, ставіліся да яе як да сваёй роднай дачкі. Павел становіцца паўнаўладным гаспадаром хутара і падворка.

Але ў краіне надыходзілі цяжкія часы. Не абмінулі яны і хутар. З кожным годам жыццё і становішча сялян усё больш пагаршаліся. Імкліва ўзрасталі харчовыя падаткі на сялянскія гаспадаркі. Па ўсёй краіне пачалася масавая кампанія па калектывізацыі. У 1929 годзе ў вёсцы Слабодка ўзнік першы калгас з гучнай назвай "Перамога". Яго першапачатковы касцяк складалі самыя бедныя пласты мясцовага сялянства, якім, па сутнасці, няма чаго было губляць. Але гэта быў вельмі невялікі адсотак ад агульнай колькасці сялянскіх гаспадарак. Пачалася актыўная агітацыя па ўцягванні ў калгас сялян-серадняков, сярод якіх лічыўся і Павел Кісялёў.

Аднойчы на хутар да Паўла на сваім кані прыехаў стрыечны брат Якаў, той самы, з якім Павел не адзін год карміў вошай у акопах Першай сусветнай вайны, а пасля змагаўся разам у адным партызанскім атрадзе, абараняючы савецкую ўладу… (На жаль, я не запытаўся ў свой час у дзядулі, ці займаў Якаў якую пасаду ў калгасе, сельскім Савеце альбо быў проста актывістам новай улады.) Хрысціна хутка накрыла на стол. Мужчыны, як водзіцца, выпілі па дзве-тры чаркі гарэлкі, закусілі салам з агуркамі… Трэба прызнацца, што за мінулыя гады, нягледзячы на сваяцтва і на тое, што не адзін пуд солі разам з'елі, знаходзячыся на валасок ад смерці, блізкімі сябрамі яны так і не сталі.

– Павел, пакажы ўсім вяскоўцам прыклад, уступай у наш калгас. За табой усе астатнія сераднякі адразу ж пацягнуцца, – гэта тэма была галоўнай для Якава, і, ўласна кажучы, за гэтым ён і прыехаў.

– Вось ты мне, Яша, скажы: якая мне карысць ад гэтага калгаса? Значыць, я павінен здаць свае тры каровы і тры кані, увесь свой інвентар, а Хведзя Гаўрусёў, гультай і п'янчуга, здаць у калгас сваю казу. А атрымліваць ад калгаса будзем аднолькава, па колькасці едакоў у хаце, так?

– Ну, можа, і не зусім так… Але ж гэта сумленна і справядліва – пароўну…

– І працаваць будзем пароўну?.. Мы з Хрысцяй з раніцы да начы будзем гарбаціцца, а Хведзя – толькі тады, калі не ў запоі? І я павінен буду карміць гэтага трутня, гэтае быдла?

– Ну, ты мне гэтыя афіцэрскія выразы кінь! Даўно ўжо не тыя часы!

– Я не афіцэр, я унтэр-афіцэр. Прытым былы. І нават не страявы, а медык. Быццам ты ведаеш гэтага…

– Унтэр-шмунтэр… Якая розніца! Ёсць, Павел, указанне кіруючых органаў. У сувязі з тым, што на краіну насоўваецца голад, усіх сялян-серадняков, якія адмаўляюцца ўступаць у калгасы, вырашана лічыць падкулачнікамі і сабатажнікамі. Табе гэта трэба?

– Але ты ж ведаеш, што гэта не так! Хіба за такое жыццё, Яша, мы з табой у чырвоных партызанах кроў сваю пралівалі?

– Я табе, Паша, сказаў, а ты думай. Не дурны…

На гэтым скончылася іх мужчынская размова. А дзеці, пятнаццацігадовая Ліда, дзевяцігадовая Ніна і трохгадовы Шура, забіўшыся ў куток, слухалі, нічога не разумеючы. І толькі Хрысціна ціха плакала…

Хутка ляцеў час. Усялякія паборы і харчпадаткі з кожным годам узрасталі. Акрамя планавых увялі новы дадатковы аднаразовы падатак на збожжа. Жыць станавілася ўсё цяжэй і цяжэй.

– Паўлуша, ідзі напішы заяву ў той калгас! Не дадуць яны нам жыцця… Паслухай мяне, любы мой, бо інакш будзе яшчэ горш... – прасіла мужа Хрысціна.

І Павел здаўся. Пайшоў да Якава пісаць заяву аб прыёме ў калгас.

– Э не, браток, позна… – ашаламіў той, – Ёсць загад ЦК нашай партыі падкулачнікаў у калгасы не прымаць. Так што не магу… Я цябе даўно пра гэта папярэджваў.

– Сволач ты, Яша, а не бальшавік! – ціха вымавіў Павел.

– Ты мне за "сволач" яшчэ адкажаш, кулацкая твая пыса! – пабарвавеўшы, закрычаў абражаны Якаў.

…А праз пару дзён на хутар Падліп'е заявілася шырокая камісія з райцэнтра. Была праведзена капітальная рэвізія ўсёй натуральнай гаспадаркі. Выграблі ўсё, што было ў наяўнасці, аж да насеннага фонду – пакінулі толькі пятую частку.

– Што вы сабе дазваляеце? Дзяцей маіх асуджаеце на галодную смерць! – не стрымаўся абураны Павел.

– Маўчаць! У краіне – голад! Паволжжа і Украіна вымiраюць! А вы, кулачо, абжыраецеся тут на хутарах, і ўсё вам мала і мала! – крычаў галоўны начальнік гэтай камісіі.

І наступіў фатальны жнівень 1934 года. На хутар прыбыло некалькі павозак з узброенымі міліцыянтамі, прадстаўнікамі раённай і мясцовай улады. Невысокі мужчына прад'явіў Паўлу сваё пасведчанне і ордар-прадпісанне. Зачытаў сумеснае рашэнне раённага і мясцовага органаў выканаўчай улады: *"…На падставе Пастановы Палітбюро ЦК ВКП(б) ад 30 студзеня 1930 года "Аб мерапрыемствах па ліквідацыі кулацкіх гаспадарак у раёнах суцэльнай калектывізацыі", Кісялёў Павел Раманавіч, 1894 года нараджэння, ураджэнец вёскі Слабодка Жлобінскага раёна, беларус, беспартыйны, падкулачнік, падвяргаецца разам з усімі членамі сям'і высылцы ў аддаленыя вобласці СССР з утрыманнем у працоўных спецпасяленнях з поўнай канфіскацыяй усёй маёмасці"*.

Спакойна і без істэрыкі Хрысціна разам з маментальна пастарэлымі дзецьмі збірала асабістыя пажыткі і складвала іх на фурманку. А камісія ў гэты час апісвала ўсё, што толькі бачыла. Павел узяў быў з сабой свой гармонік.

– Э, не!.. Гармонік падлягае канфіскацыі. Гэта ўжо прадмет раскошы.

– Тады дазвольце хаця б у апошні раз сыграць на ім.

– Ну іграй… – заўсміхаліся канфіскатары, – Мы любім музыку.

І Павел расцягнуў мяхі… Грымнуў "Егерскі марш", бравурны, бліскучы! І гэта прагучала так нечакана, ненатуральна і кантрасна створанай абстаноўцы… Марш гучаў ярка, недарэчна, гратэскна і… злавесна. Над усёй неабсяжнай краінай грымеў гэты радасны марш як насмешка, як пародыя на жыццё…

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

# Что происходит с организмом, когда вы едите бруснику?

Брусника – одна из самых полезных ягод осеннего сезона. Свою популярность ягода приобрела благодаря высокому содержанию витаминов, минералов и других питательных веществ. Именно бруснику применяют для лечения многих заболеваний: от сезонной простуды до отеков.

Сезонная ягода богата всевозможными витаминами, антиоксидантами и другими питательными веществами. Оказывает жаропонижающий и противовоспалительный эффект, из-за чего вошла в список «натуральных лекарств» против простуды и гриппа.

Брусника – настоящий борец против бактериальных инфекций, например, стафилококка, попадающего в организм с едой. Ученые обнаружили, что высокое содержание противомикробных соединений в бруснике создает невидимый щит внутри организма и защищает человека от различных болезней.

Благодаря содержанию кверцетина брусника обладает противовоспалительными свойствами и лечит многочисленные хронические заболевания, предотвращает рост раковых клеток.

Доказано, что сок брусники снижает вероятность болезней мочеполовых путей, особенно у женщин. А благодаря антимикробным свойствам ягода снижает риск образования бактерий в ротовой полости и лечит болезни десен.

Регулярное употребление ягоды улучшает функции головного мозга: помогает сохранять психическое здоровье и снабжает клетки кислородом. Помимо всего прочего, витамин С, входящий в состав брусники, предотвращает окислительные повреждения нервных клеток и снижает риск развития болезни Альцгеймера.

Ягода богата пищевыми волокнами, полезными для сердца и сосудов, а также предотвращает развитие сахарного диабета. Танины, входящие в состав брусники, улучшают пищеварение, а большое количество витамина А благоприятно сказывается на зрении.

Брусника улучшает репродуктивное здоровье, борется с грибком, отеками и служит профилактикой почечных заболеваний.

Однако, хотя брусника считается одной из самых безопасных ягод, есть ряд противопоказаний. Бруснику не стоит употреблять при мочекаменной болезни, язве желудка, низком артериальном давлении, а также при индивидуальной непереносимости или аллергии.

КОШЕЛЕК

# 285 рублей за 100 граммов

*Больше всего в минских магазинах просят за черную икру, консервы из краба и мраморное мясо. Рейтинг самых дорогих продуктов питания в ритейле составил бесплатный сервис Inforprice.by, который сравнивает цены почти на все товары в шести торговых сетях: «Евроопт», «Соседи», «Корона», «Виталюр», «Гиппо» и «Green».*

Самые дорогие продукты определяли среди всего ассортимента, исключив из выборки алкоголь и несъедобные товары.

«Золотой» для покупателей оказалась черная осетровая икра. Цена на нее в зависимости от сети варьируется от 193 до 285 рублей за 100 граммов. Дорогими оказались и консервы из мяса краба. В Минске за жестяную банку с камчатским деликатесом в треть кило просят под 145 рублей.

Дорого обходится белорусам и мраморная говядина – почти 35 рублей за стейк «Рибай». Почти килограммовая вырезка гродненского хамона оценена по-испански – в 41 рубль. Впечатляет цена и на бельгийский шоколад, в том числе набор конфет за 55 рублей.

В рейтинг также вошли стейки из красной рыбы (от 17 до 33 рублей), ломтики пармезана (от 4 до10 рублей) и филе индейки (от 13 до 18 рублей за кило). Встречаются в столичном ритейле продукты и подороже, но представлены крайне избирательно.

*«Премиальные продукты можно найти у всех ритейлеров. Надо полагать, спрос на них остается стабильным, хотя и точечным. И что интересно, разница в цене на дорогие продукты между сетями особенно высока. Например, если неудачно выбрать магазин, то можно переплатить на банке черной икры больше 100 рублей. А если брать алкоголь, который мы сознательно не включили в рейтинг, то на грамотной закупке к пышному застолью можно сберечь среднюю зарплату. Цены значительно разнятся»*, – отмечает руководитель сервиса *Inforprice.by* **Роман Андрухов**.

ПЕРАД ПАДЗЕЯЙ

# Прызоў ад Мінкульта для пераможцаў «Лістапада» не будзе

Мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад» адбудзецца ў заяўленыя раней даты – з 6 па 13 лістапада 2020 года. Фестывальны слоган гэтага года – «Магія вобраза». А візуальная канцэпцыя – прасцей кажучы, галоўная афіша – даніна павагі легендарнаму беларускаму фільму "Горад майстроў", створанаму на кінастудыі "Беларусьфільм" рэжысёрам Уладзімірам Бычковым па п'есе Тамары Габе "Горад майстроў, або Казка пра двух гарбуноў". Знакавай беларускай кінакарціне сёлета спаўняецца 55 гадоў. Гэты фільм апявае свабоду і патрыятызм, гераізм і волю, стаўшы кіназказкай на ўсе часы.

27-ы «Лістапад» адбудзецца ў няпростых для ўсёй кінаіндустрыі ўмовах. Аднак перамога сілы кінамастацтва, уражанняў і вобразаў у гэты момант могуць служыць панацэяй ад многіх нягод. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, жыццё не стаіць на месцы. Менавіта таму фармат фестывалю ў гэтым годзе будзе адрозніваецца ад усіх папярэдніх. У кінатэатрах, дзе пройдуць паказы для гледачоў, будзе забяспечана сацыяльная дыстанцыя і ўсе неабходныя меры бяспекі. Для замежных членаў журы дырэкцыя форуму рыхтуецца правесці «Лістапад» ў анлайн-фармаце.

Арганізатар «Лістапада» – Цэнтр візуальных і выканальніцкіх мастацтваў «АРТ Карпарэйшн». Заснавальнікі ММКФ – Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт. Але, як праінфармавала нас дасведчаная крыніца, прызоў ад Мінкульта для пераможцаў кінафэсту ў гэтым годзе не будзе. Застаецца толькі гадаць чаму: ці то ў дзяржаве наогул няма фінансавых сродкаў на культуру, ці то гэта канкрэтнае выражэнне стаўлення ўлады да творчай інтэлігенцыі краіны.

Кірыл БУБНОЎ.

АРТ-ЖЫЦЦЁ

# Салон без банкіра

У пяты раз у Мінску адкрыўся «Восеньскі салон з Белгазпрамбанкам». І гэта нягледзячы на тое, што топ-менеджэмент гэтага банка заключаны ў вязніцу КДБ, а знакамітая карпаратыўная калекцыя гэтага ж банка незаконна арыштавана. Хоць, паводле некаторых звестак, і знаходзіцца тут жа, за сценамі Палаца мастацтва. Але пад замком.

Вось сённяшняя рэальнасць «нашага гарадка». Але мне ўсё роўна прыемна пісаць пра мастацкую імпрэзу, таму што ля вытокаў гэтай культурнай ініцыятывы стаяў не хто іншы, як Віктар Дзмітрыевіч Бабарыка, у той час старшыня праўлення банка. А цяпер, як вядома, адзін з галоўных палітвязняў краіны.

Наогул, калі азірнуцца на мінулае дзесяцігоддзе, то колькі прыкметных культурных мерапрыемстваў у краіне было створана па ініцыятыве банкіра В.Д.Бабарыкі! Колькі выдатных артэфактаў было вернута яго стараннямі (а часам і за яго кошт!) у нашу краіну: арыгінал Бібліі Францыска Скарыны, карціны сусветна вядомых мастакоў Парыжскай школы... Ды ўзяць хоць бы нашы дні: прама зараз у Мінску праходзіць Міжнародны тэатральны фестываль «ТЭАРТ», які таксама сваімі паўнавартаснымі фінансавымі ўліваннямі падтрымліваў «Белгазпрамбанк» па ініцыятыве Бабарыкі. За больш чым неабыякавае стаўленне да культуры сваёй радзімы Віктар Бабарыка быў спачатку ўзнагароджаны дыпломам камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА, а праз некалькі гадоў, у 2014-м, – ганаровым званнем «Мецэнат года».

Што, як бачым, не перашкодзіла ўладам без суда і следства ачарніць яго імя. Але справы былога банкіра кажуць самі за сябе.

Такім чынам, «Восеньскі салон з Белгазпрамбанкам» – вялікая і вельмі папулярная выстава выяўленчага мастацтва – зноў пачаў сваю работу. Яго наведваюць звычайна больш за дзесяць тысяч чалавек, і дзясятая частка карцін купляецца прама з залы Палаца мастацтваў. Па выніках салона міжнароднае журы прысуджае пераможцам таксама добрыя прэміі – і грошы, і паездкі ў Парыж. Так што і ў гэтым годзе, нягледзячы ні на што, 700 чалавек падалі заяўкі на ўдзел у вернісажы. Але строгая прафесійная адборачная камісія дала магчымасць выставіцца толькі 209 мастакам.

Так, арганізатары салона абышліся ў гэтым годзе без прэс-канферэнцыі, на якой заўсёды з гонарам і радасцю выступаў Бабарыка. Але яго пакуль што з намі няма. Хто яго заменіць? Надзея Ермакова? Да выяўленчага мастацтва яна мае такія адносіны, як мая бабуля да космасу.

Маштабная экспазіцыя ў Палацы мастацтва будзе працаваць на працягу трох тыдняў. Як заўсёды, кожная праца даступна да набыцця, гэта можна зрабіць нават анлайн праз сайт. Частка атрыманых сродкаў пойдзе на дапамогу дабрачынным арганізацыям.

**Вікторыя ДРОЗД.**




**На фота: Віктар Бабарыка і трохразовая пераможца «Восеньскага салона» Алеся Скарабагатая. 2017 год.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# ...Без узыходжання на п'едэстал



*Старшыня Беларускага цяжкаатлетычнага саюза **Міхаіл Рабікоўскі** распавёў "Народнай Волі", што 20 кастрычніка ў мужчынскай зборнай Беларусі будзе новы галоўны трэнер. Хто будзе кіраваць зборнай?*

– 20 кастрычніка падчас атэстацыі будзе прызначаны новы галоўны трэнер мужчынскай каманды. Пакуль ніякія прозвішчы называць не буду, бо кандыдатуру спачатку павінна зацвердзіць Міністэрства спорту і турызму. Як кажуць, не хачу бегчы наперадзе цягніка.

**– Новы трэнер – новыя падыходы?**

– Не думаю, што ў трэніровачным працэсе каманды нешта моцна зменіцца. Усе штатныя трэнеры застаюцца, вялікіх змен не будзе. Зборная трэніруецца ў звычайным рэжыме.

Зараз, напрыклад, зрабілі заяўку на ўдзел у чэмпіянаце свету па цяжкай атлетыцы да 17 гадоў. Планавалася, што ён адбудзецца з 11 па 18 лістапада ў Перу, але з-за пандэміі спаборніцтвы хочуць правесці анлайн. Трэба ўдзельнічаць, бо яшчэ не вядома, як увогуле будзе складвацца сітуацыя з каранавірусам і на якім свеце ў сувязі з гэтым будзем мы. Пакуль спартсмены толькі трэніруюцца – спаборніцтваў няма.

**– Анлайн-чэмпіянат свету па цяжкай атлетыцы – гэта нешта новае. Як усё будзе выглядаць?**

– Усе зборныя будуць выступаць дома, у сваіх спартыўных залах, будуць ісці трансляцыі з розных краін. Мы, напрыклад, плануем выступаць на базе ў Стайках. Усё будзе пад відэаназіраннем – узважванне, падыходы, тэхнічнае выкананне.

Падабаецца вам такая сістэма альбо не – ніхто не пытаецца. Становішча безвыходнае, зараз увесь свет спрабуе жыць і працаваць у новым фармаце.

**– Як асабіста вам такі фармат?**

– Шчыра кажучы, не вельмі, бо, як мне падаецца, гэта будзе выступленне ўсляпую. Калі праходзіць класічны чэмпіянат, то ты бачыш саперніка, ведаеш, як настройвацца. А тут атрымліваецца, што кожны змагаецца ціха сам з сабою. А затым ужо параўнаюць вынікі ўсіх і абвесцяць пераможцу.

Не будзе традыцыйнага ўзнагароджвання, узыходжання на п'едэстал, а гэта ж таксама важны момант для спартсменаў. Адным словам, такія спаборніцтвы мне падаюцца некалькі штучнымі, хаця, паўтаруся, на гэты момант іншага выйсця няма. Лепш перастрахавацца, чым затым хварэць.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПОЗИЦИЯ

## Александр ЕФИМОВ:

# «Министерство спорта хочет всех построить в шеренгу...»



*Тренер известной белорусской спортсменки, толкательницы ядра Надежды Остапчук рассказал «Народной Воле», как деградирует белорусский спорт, и высказался о том, что сегодня происходит в стране.*

**– Ваша ученица Надежда Остапчук сейчас заняла активную гражданскую позицию, она солидаризировалась с репрессированными спортсменами. Поддерживаете ее?**

– Надя – взрослый человек и, думаю, ни в чьей поддержке не нуждается. Это когда она тренировалась, возможно, нуждалась в каких-то моих советах, а сейчас что я могу ей сказать?

Она сама принимает решения и отвечает за свои поступки, хотя у меня, конечно, тоже есть свое мнение по поводу происходящего. Нынешние протесты – это продолжение дня выборов, если кто-то об этом уже забыл. Были бы выборы проведены нормально, страна жила бы сейчас абсолютно другой жизнью.

**– От недовольных Министерство спорта и туризма старается избавиться или идеологически перевоспитать.**

– Еще лет 30–40 назад говорили, что такая структура, как Министерство спорта, вообще не нужна. Во всем мире спорт держится на федерациях, любителях. В Испании студент знает, что если он покажет результат и попадет в сборную, то ему дадут стипендию. Когда-то любители бега самоорганизовывались, им никто не был нужен. Когда их попытались построить, нагрузить и пересчитать, то они просто развалились, и Клуба любителей бега не стало.

А наше Министерство спорта, конечно, не развалится, потому что там тоже сидит много потребителей. И если у государства есть деньги, чтобы помогать этим потребителям, то, естественно, они будут гладить руку дающую.

**– Но они не только гладят руку, но и бьют по рукам тем, кто осмелился высказать собственное мнение. Это правильно?**

– Это неправильно, потому что спортсмены – это в какой-то степени тоже творческие люди. Там есть свои таланты. Художников много, но не каждый напишет шедевр. Даже за большие деньги. Так и в спорте – талант нужно найти и раскрыть. Убрать этого человека на самом деле легко, но на его месте будет пустота.

Скажем, не будет выступать за сборную чемпионка мира по фристайлу Саша Романовская. Что, на ее место сразу же найдут равноценную замену? Нет. Другое дело, что, может, никто и не собирается искать никакую замену? Может, это никому не надо? Кто-то поедет на соревнования, кто-то выступит – стрельнет из пистолета или прыгнет с трамплина. В конце концов, не все же страны завоевывают медали. Можно поставить во главу угла принцип "Главное не победа, а участие", и тогда вообще можно выгонять всех идеологически неправильных спортсменов.

Мы же, наверное, очень богатая страна, нам проще купить канадца, дать ему белорусский паспорт. Это проще, чем своих растить – талантливых и принципиальных. В спорте и в жизни. Да и кто будет растить таланты? Учителя физкультуры, многие из которых имеют среднее техническое образование?

И спорт в целом, и легкая атлетика в частности в Беларуси в последнее время деградируют. Времена меняются. Давайте вспомним, сколько раньше, еще в советские времена, в Беларуси было спортивных обществ. И каждое общество кого-то готовило, была построена система подготовки спортсменов.

За последние 20 лет и жизнь, и спорт сильно изменились. Нет уже прежнего энтузиазма, люди больше думают о деньгах.

А из-за пандемии сейчас спорт для людей вообще отошел на десятый план, поэтому мне не понятно трепыхание Минспорта, которое представляет государство, когда оно старается всех построить в одну шеренгу – и спортсменов, и солдат, и пенсионеров.

**– Не получится?**

– Так я же говорю, что жизнь уже не будет прежней, люди очень быстро распознают ложь, а она сплошным потоком льется на голову народа. Все друг друга обманывают, и все довольны. Жизнь прекрасна, страна для жизни прекрасна, никаких проблем вообще нет!

А выйдешь на улицу и собственными глазами видишь, что, оказывается, нам вешали лапшу на уши. И продолжают это делать, хотя жизнь становится все труднее и труднее. Раньше пенсия была 250 долларов, сейчас – 180, а скоро до сотни доживем.

Можно бесконечно называть черное белым, но люди сами различают цвета. Это при Союзе была газета «Правда» и один-два телеканала, а сейчас у каждого есть телефон, из которого он сам может узнать все новости и дать им собственную оценку, а не использовать ту, которую ему стараются навязать.

Переваривай информацию, если есть мозги. Или не переваривай, если нет головы или она исключительно для того, чтобы ломать кирпичи. Что таким людям объяснять? Но таких, хочу отметить, в стране, к сожалению, достаточно много.

**Алесь СИВЫЙ.**

ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ

## Алесь СІЛКОЎ:

# «Я за ўсё жыццё столькі не піў, колькі за гэтыя два тыдні!»

*Каардынатар кампаніі "Права выбару" Алесь Сілкоў перахварэў на каранавірус. І атрымаў 600 рублёў! Справа ў тым, што некалькі месяцаў таму жонка застрахавала Сілкова ад гэтай хваробы, і, паколькі каранавірус быў афіцыйна пацверджаны, страхавая кампанія выплаціла грамадскаму актывісту грошы. "Народная Воля" пацікавілася падрабязнасцямі.*

– Гісторыя пра страхоўку вельмі простая: мая жонка працуе ў "Белнафтастрахе", і, ведаючы, што мне прыходзіцца па працы вельмі шмат ездзіць, яна яшчэ ў красавіку застрахавала мяне ад каранавіруса, – *распавядае "Народнай Волі" Алесь Сілкоў*. – Кошт пытання, калі не памыляюся, каля 30 рублёў. Увесну мяне пранясло – хвароба прайшла бокам. Тады многія засталіся на самаізаляцыі, не пускалі дзяцей ў школу. А цяпер назіраецца даволі вялікі рост выпадкаў захворвання на COVID-19. Паводле маіх адчуванняў, сёння захварэць можа любы чалавек, бо многія расслабіліся.



**– Вам дзеці вірус са школы прынеслі?**

– Не. У жонкі на працы захварэў увесь аддзел, а я ўжо ад яе дома падчапіў.

Адразу хачу аддаць належнае нашым медыкам, сказаць ім вялікі дзякуй. Праўда, калі я першы раз звярнуўся з тэмпературай у паліклініку, мяне адправілі дахаты. Паслухалі, памералі кіслярод у крыві і сказалі, што кавіда няма, – маўляў, звычайная прастуда. Але я вярнуўся дахаты і зразумеў, што ў мяне дакладна каранавірус, бо проста ў адзін момант перастаў адчуваць пахі. У нас кавамашына, а я зусім не чуў прыемнага водару гэтага напою! Тады мы ўжо выклікалі доктара дахаты, тым больш што і жонка хварэла на каранавірус. У мяне ўзялі мазок з горла і з носа, і аналіз даў станоўчы вынік на COVID-19. Далей ты падпісваеш паперу, што на два тыдні застанешся дома. А потым… адчуваеш сваю поўную бездапаможнасць! Бо ведаеш, што ад каранавіруса няма ніякіх лекаў. І ты лічыш дні і пільна прыслухоўваешся да свайго арганізма.

**– Якія рэкамендацыі далі вам дактары?**

– Выпісалі антыбіётыкі і параілі больш піць. Шчыра скажу: я за ўсё жыццё столькі не піў, колькі за гэтыя два тыдні! Гарбату, каву, ваду. Літрамі!

За гэты перыяд нас з жонкай некалькі разоў правяралі, дома мы альбо не. Між іншым, вельмі дакладна працуюць медыкі: калі сказалі, што прыедуць браць кроў, напрыклад, 10-га чысла, то так і прыязджаюць.

Дарэчы, у мяне кантрольны аналіз крыві даў адмоўны вынік, быццам бы я і не хварэў! Я здзівіўся. Калі прыйшоў да ўчастковага тэрапеўта, доктар патлумачыў: вы сапраўды перахварэлі на каранавірус, але ваш арганізм не выпрацаваў антыцелы. Цікавая рэч: у жонкі знайшлі антыцелы, а ў мяне – не. Чаму так адбываецца – не магу патлумачыць. Можа, справа ва ўзросце? Яна ж маладзейшая за мяне на 12 гадоў: мне 51 год, а ёй – 39. Можа, з-за гэтага? А можа, справа зусім і не ва ўзросце. Карацей, доктар сказаў, што я нікога не магу заразіць каранавірусам, але вось сам захварэць яшчэ раз – гэта верагодна!

Ад сэрца скажу: пасля хваробы заходжу ў магазін, і мяне сапраўды жах бярэ – людзі без масак! Такое адчуванне, што мы самі над сабой праводзім такі вельмі небяспечны эксперымент…

Яшчэ адно важнае пытанне – школа. Нашы дзеці не хварэлі, але паколькі яны з намі ўвесь час у адной кватэры, то чыста тэарэтычна маглі быць пераносчыкамі віруса. Таму мы іх у школу не пусцілі, у паліклініцы бралі адпаведную даведку.

**– Колькі ў вас дзяцей?**

– Двое. Адзін у трэцім класе, другі ў чацвёртым. Школа зараз не пераходзіць на дыстанцыйнае навучанне, і калі ў некага бацькі хварэюць, то дзеці як кантакты першага ўзроўню вельмі проста могуць разносіць гэту заразу.

Я не хачу наводзіць страх, але перакананы, што на каранавірус перахварэе кожны! І шмат ужо хто перахварэў, але пра гэта не здагадваецца, бо хвароба можа быць і цалкам бессімптомнай. У мяне самога спачатку было адчуванне, што падхапіў звычайны вірус, а не гэты новы страшэнны. З незвычайных сімптомаў у мяне была толькі страта нюху. Першыя два дні паднімалася тэмпература, а потым яна нармалізавалася. І ўсё. Апошні тыдзень мы з жонкай толькі пілі гарбату і глядзелі серыял "Гульня тронаў". І яшчэ з дзецьмі ўрокі рабілі – давялося наноў вывучаць падручнік па матэматыцы для чацвёртага класа.

**– Пашанцавала, што была лёгкая форма хваробы.**

– Так, бо некаторыя мае знаёмыя вельмі цяжка хварэюць – у бальніцах, пад кропельніцамі. Але! З дыягназам каранавірус ты міжволі вельмі ўважліва прыслухоўваешся да свайго арганізма, рэагуеш на кожную дробязь, нават калі ў цябе нескладаны выпадак.

Канешне, было б добра, калі хаця б для свайго заспакаення можна было зрабіць камп'ютарную тамаграфію лёгкіх. Я думаў пайсці зрабіць КТ ў прыватным медцэнтры, каб ўпэўніцца, што ўнутры таксама ўсё добра.

**– А вам накіраванне на КТ не далі?**

– Не, паслухалі і сказалі, што ўсё нармальна. Але я нават і не ведаю, дзе ў нас у Магілёве можна, хай сабе і платна, зрабіць КТ. Калі тэмпература, "хуткая", ты не можаш дыхаць – тады ў клініцы, канешне, зробяць. А вось каб самастойна – не ведаю, куды звяртацца.

Паўтаруся: вялікі дзякуй медыкам, якія выяўляюць, прыязджаюць, кантралююць і ўвогуле робяць тое, што могуць у гэтай сітуацыі. Ну а паколькі лекаў ад гэтай хваробы няма, то кожны павінен спадзявацца толькі на самога сябе, свой імунітэт, выконваць меры бяспекі.

Вясной я толькі чытаў пра COVID-19, і было адчуванне, што ён недзе далёка. А зараз хварэе ўжо блізкае кола, сябры… Таму ўсім хачу парэкамендаваць: беражыце сябе, апранайце маску ў грамадскіх месцах! І страхуйцеся, пакуль гэта магчыма, хвароба сур'ёзная! Бо ў мяне адчуванне, што многія ставяцца да сітуацыі з каранавірусам з такой уласцівай беларусам бязладнасцю. Дарэмна!

**Марына КОКТЫШ.**



СІТУАЦЫЯ

# Аляксандры Раманоўскай зрабілі аперацыю

Нагадаем, што не так даўно стала вядома, што лепшую спартсменку мінулага года, чэмпіёнку свету па фрыстайле Аляксандру Раманоўскую звольнілі з нацыянальнай каманды "за прагулы", хаця ў яе была форс-мажорная сітуацыя: бацька спартсменкі перанёс інсульт, не было каму вазіць яго ў бальніцу, гэтым займалася Аляксандра.

У Рэспубліканскім цэнтры алімпійскай падрыхтоўкі на гэта не звярнулі ўвагі, хаця ўсім было зразумела, што насамрэч Раманоўскую звольнілі за яе актыўную грамадзянскую пазіцыю.

Загад набывае моц 16 кастрычніка, але рашэнне РЦАП будзе аспрэчвацца.

Акрамя таго, раней і галоўнага трэнера зборнай Беларусі Мікалая Казеку пазбавілі прэзідэнцкай стыпендыі. Ён таксама асудзіў гвалт на вуліцах Беларусі пасля выбараў.

– На гэтым тыдні Сашы зрабілі аперацыю, – распавёў "Народнай Волі" **Мікалай Казека**. – Урачы, якія яе праводзілі, кажуць, што ўсё прайшло паспяхова. Гэта была такая касметычная аперацыя, быў рубец на каленным суставе, і яго, так бы мовіць, нівеліравалі.

**– Колькі часу працягнецца рэабілітацыя?**

– Пакуль нічога не вядома, медыкі будуць адштурхоўвацца ад таго, як пойдзе працэс аднаўлення.

**– Улічваючы, што Сашу звольнілі, якія яе далейшыя спартыўныя перспектывы?**

– Пакуль яна знаходзіцца на бальнічным, а далей пабачым, што будзе. Хацелася б верыць у лепшае.

**– Вас пазбавілі прэзідэнцкай стыпендыі, і грошы за пэўны перыяд вы павінны вярнуць дзяржаве. Якая гэта сума?**

– Дакладна не ведаю, бо пакуль гэты працэс ідзе, і не хочацца бегчы наперадзе цягніка.

**– Як зараз працуецца ў свеце апошніх падзей?**

– Працуем у штатным рэжыме, зараз крыху сітуацыя супакоілася.

**– Ведаю, што на гэтым тыдні да вас пряджаў і алімпійскі чэмпіён Антон Кушнір, які зараз працуе трэнерам са зборнай Казахстана. Вучань вырашыў падтрымаць настаўніка?**

– Антон зараз насамрэч у Мінску. Тут і пандэмія паўплывала, і аперацыю трэба было рабіць з-за старых траўм. А заходзіў да мяне ў госці акурат пасля свайго дня нараджэння. Прынёс сок, торт, сушы, душэўна пасядзелі. Нам было пра што пагаварыць…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ


Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.).
Отпечатано в АО «Прайм Принт Москва», 141707,МО, г.Долгопрудный, Лихачевский пр-д, 5В. Подписано в печать 15.10.2020 в 17.00. Объем 4 печ. листа. Тираж 30000 экз. Заказ №2759.